Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20). Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр. Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 2 (36) Вільня, 15 студня 1939 г. Год IV

## Аб самаазначэньні народаў.

У самы разгар сусьветнай вайны амэрыканскі прэзыдэнт В. Вільсон зьвярнуўся да ваюючых старон з прапазыкай паміраўцца на аснове пададзеных ім да публічнага ведама „14 пунктаў". Нязвычайна важным з гэтых пунктаў быў заклік урэгуляваць новую палітычную карту Эўропы паводле прынцыпу „самаазначэньня народаў". Заклік гэты ня мог быць прыняты Расеяй і Аўстрыяй, бо азначаў для іх палітычную сьмерць, з рэзэрвай адносілася да яго Нямеччына, якая была тады на вышыні свайго мілітарнага паводжаньня, а такжа, галоўна з прычыны Расеі — Англія і Францыя. Аднак, калі кончылася сусьветная вайна, а Расея апанаваная бальшавікамі выйшла із складу Антанты, Францыя і Англія высунулі гэты прынцып у поўнай меры супроць цэнтральных дзяржаў г. ё. Аўстрыі і Нямеччыны. Дзякуючы гэтаму, Аўстрыя развалілася на асобныя дзяржавы, ды і Нямеччына нават нязгодна з гэтым прынцыпам была моцна абрэзана. Новы стан у Сярэдняй Эўропе быў, здавалася, на доўгі час замацаваны Вэрсальскім трактатам.

Тут трэба адразу сьцьвердзіць, што Антанта ані на хвіліну ня думала аб консэквэнтным правядзеньні гэтага прынцыпу ўва ўсей Эўропе, (не гаворачы ўжо аб калёніях), а выкарыстала яго патолькі, паколькі ён аслабляў ейных праціўнікаў. Гэтак, Антанта зусім ня мела на мэце разьбіваць Расеі, у якой хацела бачыць пасьля ліквідацыі бальшавікоў надалей свайго саюзьніка супроць Нямеччыны і таму не знайшлі ў яе спагаду тагачасныя імкненьні беларусаў і украінцаў, апёртыя якраз на гэтым прынцыпе. Апрача таго, тая-ж Антанта, будуючы новыя дзяржавы на аснове самаазначэньня, нарушыла яго на карысьць розных іншых дзейнікаў, а наўперад палітычных, эканамічных. Умацоўваючы граніцы новых дзяржаў, Антанта ўключыла ў іх склад іншыя народы, дзелячы іх як хаця і не дазволіла ўсім немцам у Эўропе аб'яднацца ў вадну дзяржаву. Гэткім парадкам у новазбудаваных дзяржавах — і, што цікавей, на аснове самаазначэньня — адразу апынуліся г. зв. нацыянальныя меншасьці, не гаворачы ўжо аб рэлігійных. З другога боку вытварыўся гэткі ненармальны стан, што адзін народ меў дзьве дзяржавы (прыкл. Нямеччына і Аўстрыя).

Лічучыся з тым, што пануючыя народы могуць імкнуцца да асыміляцыі сваіх меншасьцяў і наагул іх перасьледаваць, Антанта сваё адступленьне ад чыстага прынцыпу самаазначэньня направіла г. зв. трактатамі аб нацыянальных і іншых меншасьцях, якія накінула новаствораным дзяржавам. Гэткія трактаты падпісалі між іншымі Польшч і Чэхаславаччына.

Гэтак Антанта правяла ў практыцы вільсонаўскі заклік перабудовы Эўропы на аснове самаазначэньня народаў. Ясным ёсьць, што гэткі стан мог трываць толькі датуль, пакуль волі Антанты слухаліся, а гэта трывала нядоўга. Несподзявана шпарка пачала адраджацца сіла Нямеччыны, якая скідала з сябе адно за другім путы Вэрсальскага трактату, а новапаўсталыя дзяржавы, бачучы аслабленьне Антанты, скінулі з сябе накіненыя ёй трактаты аб нацыянальных меншасьцях, якія значна абмяжоўвалі сувэрэннасьць гэтых дзяржаў у іхняй палітыцы адносна сваіх нац. меншасьцяў. Між іншымі адмовілася ад гэткага трактату і Польшч. Гэткім парадкам доля нац. меншасьцяў у кожнай дзяржаве зрабілася залежнай ад яе нутраных законаў і палітыкі кожнаразовых кіраўнікоў. Нац. меншасьці апынуліся ў надта няпэўным палажэньні, а прынцып самаазначэньня народаў, нават у кампраміснай форме праведзенай Антантай, практычна быў перачыркнены.

Але вось у мінулым годзе ён ізноў усплыў на ўзьверх жыцьця і прыгэтым у найчысьцейшай сваей форме. Падняла яго Нямеччына, а першае яго практычнае ажыцьўленьне мы бачым на прыкладзе Чэхаславаччыны. Сутнасьць яго, паводле Нямеччыны, якая імкнецца да радыкальнае перабудовы Усходняе Эўропы, ляжыць у тым, што новы палітычны лад мае быць апёрты выключна на этнографічнай аснове, якой ня могуць зьмяніць ніякія дзейнікі. Іншымі славамі новыя гаспадарствы могуць паўставаць толькі ў этнографічных граніцах, а тым самым, кожны народ мае права на собскую дзяржаву. На гэтай аснове ўтрымалася, як аўтаномная адзінка ў складзе Чэхаславаччыны, Карпацкая Украіна.

Як бачым кліч самаазначэньня народаў, які Антанта ў свой часе выкарыстала супроць Нямеччыны, падымаецца сяньня гэтайжа самай Нямеччынай! Чым гэта тлумачыцца? Адказ надта просты: перабудова Сярэдняй і Усходняй Эўропы на аснове самаазначэньня народаў нязвычайна карысна для Нямеччыны. Гэткім парадкам, калі на Усходзе Эўропы паўстане некалькі новых дзяржаў, для Нямеччыны зьнікае пагроза ўсходняга фронту, які заўсёды будзе, калі тут астанецца адна, або дзьве сільныя і аб'едналыя процінямецкімі інтарэсамі дзяржавы. Гэтыя дзяржавы (ці дзяржава) у саюзе з Францыяй або Англіяй маглі-б ізноў сьціснуць Нямеччыну ў прыпадку вайны ў клешчы, якія ёй добра даліся ў знакі ў часе сусьветнае вайны. Па другое — дзяржавы, паўстаўшыя з помачу Нямеччыны, былі-б яе натуральнымі прыяцелямі, далі-б ей неабходнай сыравіны і былі-б вялікім рынкам для нямецкіх фабрычных прадуктаў.

Апрача таго ня трэба забывацца, што прынцып самаазначэньня народаў на Усходзе ёсьць дасканалым лякарствам супроць камуністычнага інтэрнацыяналу, які бальшавікі ў прыпадку вайны будуць шырока выкарыстоўваць для разлажэньня праціўніка. Шчыра праводжаны і шырока распаўсюджаны кліч самаазначэньня народаў можа выклікаць, напрыклад, тое, што Савецкага Саюзу будуць бараніць толькі расейцы (47 проц. усяго насельніцтва), ды праканаваныя камуністы. Трудна дапусьціць, каб сьведамыя народы, як украінскі, беларускі і інш., якія прынясьлі дзясяткі і сотні тысячаў найлепшых барацьбітоў у ахвяру за сваю свабоду, апынуліся ў расейска-інтэрнацыянальных радох і выступалі супроць собскіх інтарэсаў.

Дзеля гэтага кліч самаазначэньня народаў можа быць выкарыстаны ня толькі Нямеччынай, але такжа падняволенымі Расеяй народамі ў іх собскіх інтарэсах.

—

## УСХОДНЯ-ЭЎРАПЭЙСКІЯ СПРАВЫ.

Падзеі, якія адбыліся і могуць адбывацца на Усходзе Эўропы ў сувязі з падзелам Чэхаславаччыны і стварэньнем Карпацкай Украіны, надалей прыцягваюць увагу ўсяго палітычнага сьвету. Найболей цікавіцца справай, якое становішча займе **Польшч** у надыходзячым змаганьні паміж Нямеччынай і Саветамі?

Дагэтуль Польшч, як ведама, займала нэўтральнае становішча і імкнулася да таго, каб не дапусьціць да сутычкі і вайны паміж двума грознымі суседзямі. З гэтай мэтай Польшч нават прабавала будаваць паміж імі бар'ер пачынаючы ад Эстоніі, а канчаючы на Вугрыі і Румыніі, каб за ўсякую цану не дапусьціць да вайны, пры якой трудна было-б захаваць нэўтральнасьць. Аднак будова бар'еру не ўдалася, перашкодзіла гэтаму Нямеччына. Тады польская палітыка зьвярнулася да Саветаў, прапануючы прадоўжаньне пакту ненападаньня да 1945 году і навязаньне бліжэйшых эканамічных і гандлёвых знокін. Падпісаны пакт з Саветамі азначае ня што іншае, кажа варш. „Polityka" (10. I.), як толькі тое, што Польшч ня ёсьць склоннай, каб здабываць Расею сілаю, змагаючыся з савецкімі арміямі „Гэтакага роду паход, нават праводжаны разам з немцамі быўбы вялікай неасьцярожнасьцяй, бо хваціла-б якой колечы інтэрвэнцыі заходніх дзяржаў, каб адабраць ад новачасных Аргонаўтаў плады іхняй цяжкой перамогі". Наадварот — піша далей „Polityka" — каліб сучасная савецкая дзяржава паддалася раскладу з прычыны анархіі, што зьяўляецца даволі праўдападобным, дык ясным ёсьць, што канечная была-б інтэрвэнцыя з мэтай устанаўленьня на яе абшарах палажэньня, згоднага з дзяржаўнай рацыяй Польшчы".

Значыць, паводле „Polityki", Польшч толькі тады павінна ўмяшацца ў расейскія справы, калі ў Саветах наступіць рэвалюцыя, і ўмяшацца з мэтай устанаўленьня такога палажэньня, якое ёсьць згодным з польскай дзяржаўнай рацыяй. У чым зьмяшчаецца гэтая рацыя Польскай дзяржавы, ці тэрыторыяльныя зьмены, ці тварэньне новых дзяржаў — „Polityka" ня кажа.

Збліжэньне Польшчы з Расеяй „Polityka" тлумачыць стварэньнем Карпацкай Украіны, скуль пад пратэктаратам Бэрліна мелася пашы-

**Сьмерць Р. Дмоўскага.** На пачатку студня памёр павадыр польскай эндэцыі, вораг белар. народу, Раман Дмоўскі. Гэта быў ідэалёг— доктрынэр польскага ваюючага імпэрыялізму. Паводле ягонай тэорыі ў граніцы Польшчы павінны былі ўвайсьці: зах. палавіна Беларусі па Бярэзіну і Дзьвіну разам з Полацкам, апроч гэтага Латгалія, Курляндыя, Літва, Усходняя Прусія. Стаяў за падзел беларускіх і ўкраінскіх зямель паміж Польшчай і Расеяй; не прызнаваў існаваньня белар. і ўкр. народаў; пашыраў думку аб неабходнасьці польска - расейскага саюзу і стварэньня супольнага фронту Польшчы і Расеі процiў Нямеччыны.

**Польска - літоўская дэклярацыя.** У першых днях студня была апублікавана ў віл. прэсе („Słowo" 3.I.39) дэклярацыя, падпісаная з аднаго боку польскай групай віл. дэмакратаў, а з другога — прадстаўнікамі віл. літоўскага грамадзянства з гр. Сташысам на чале. У дэклярацыі прызнаецца літоўскаму насельніцтву ў Польшчы: 1) свабоду навучаньня ў літоўскіх ніжэйшых і сярэдніх школах; 2) стварэньне пры Віл. Унівэрсытэце катэдры літ. філёлёгii; 3) свабоду гуртаваньня ў культурна-прасьветных, навуковых і гаспадарчых арганізацыях; 4) доступ для літоўцаў на дзяржаўныя і самаўрадавыя пасады; 5) роўныя правы для літ. насельніцтва пры праводжаньні зямельнай рэформы а такжа пры куплі вясковых і гарадзкіх нярухомасьцяў. — З другога боку прызнаюцца такія-ж правы польскаму насельніцтву ў Літве.

Дэклярацыя гэта выклікала ў польскім грамадзянстве шырокую дыскусію. Адны ставілі закід, чаму дэклярацыю падпісалі толькі прадстаўнікі г. зв. Дэмакратычнага Клюбу ў Вільні, тады калі яе маглі-б падпісаць шырэйшыя кругі польскага грамадзянства, а другія, што такая дэклярацыя лішняя, бо яна для польскіх інтарэсаў шкодная. Да першых належаць некаторыя былыя дэмакраты з „Кур. Віл." а да другіх — эндэкі. Першыя выстаўляюць яшчэ закід, што „дэмакратычныя" клічы цяпер высоўваюцца „людовымі фронтамі", а другія кажуць, што дэклярацыя актывізуе літоўскую справу ў Польшчы...

„Кур. Віл." (11.I) у сувязі з гэтай дэклярацыяй прыносіць вестку, што польскі „Дэмакратычны Клюб" у Вільні вёў гутаркі такжа з прадстаўнікамі беларускай меншасьці. Ў рэзультаце гэтых гутарак быццам быў пададзены ўраду мэмарыял у беларускай справе.

Наколькі праўдзівы апошнія весткі, мы ня ведаем.

# На беларускім грунце

### ПАСЬЛЯ ВЫСЯЛЕНЬНЯ.

Высяленьне з Вільні кс. Станкевіча, інж. Клімовіча і кс. Талочкі выклікала ў польскай прэсе цэлую буру спрэчак, палемікі і ўсякіх напасьцяў. Характэрная рэч, што гэтая бура сканцэнтравалася ня так каля першых двух, як каля кс. Талочкі. Гэта дзеля таго, што за кс. Т. заступілася польская прэса, на чале з „Словам" і „Кур'ерам Віл." Гэтая прэса адзначыла высокую навуку кс. Талочкі, яго культуру, гуманітарызм і вялікія вартасьці як сапраўднага сьвятара. Наадварот, озонаўскі „Naród" у сваіх артыкулах востра атакаваў кс. Талочку, закідаючы яму, што пісаў проціўпольскія артыкулы, што 25 сакавіка 1936 г. разсылаў сваім прыяцелям візытоўкі з надпісам: „Хай жыве вольная Беларусь", што выпісваў францускі проціўпольскі „Journal des Nations" і г. д.

Але найболей зактывізаваў беларускую справу і то ня толькі на польскім, але і заграпічным грунце кракаўскі „Ilustrowany Kurjer Codzienny" (4.I.39). Гэты ў даўзёрнай карэспандэнцыі з Вільні кажа, што выезд з Вільні павадыроў беларускага руху знаходзіцца ў цеснай сувязі **з актывізацыяй украінскага руху** і ягонымі кантактамі з віленскімі беларусамі. Прыгэтым ІКЦ прыпамінае дзейнасьць Бел. Нац. Камітэту ў Вільні, які стаяў на грунце акту 25 сакавіка 1918 году, г. зн. на грунце назалежнасьці Беларусі і злучэньня ўсіх этнографічных бел. земляў у Беларускую Народную Рэспубліку. Далей закідаецца выселеным, што мелі кантакт з мітрапалітам Шэптыцкім, з Коўняю і Бэрлінам, а ўканцы падаецца сэнсацыйная вестка, што ў пачатку лістапада адбылася ў Вільні беларуска-украінская канфэрэнцыя з мэтай апрацаваньня мэтадаў, вядучых да ўзарваньня Польскай дзяржавы знутра... Гэтакія і падобныя закіды ставіць ІКЦ выселеным беларускім дзеячам.

Віл. беларускае грамадзянства найболей зацікавілася весткай аб „адбытай" беларуска - украінскай канфэрэнцыі... Наўперад, ці такая канфэрэнцыя была, а калі была, хто на ёй быў, што гаварылася і якія былі вынесены пастановы? Восьжа пасьля дакладных доследаў мусім сьцьвердзіць, што такой канфэрэнцыі ня было. Ніхто з віленскіх беларусаў аб падобнай канфэрэнцыі ня чуў, ніхто ня бачыў ніякіх украінскіх дэлегатаў і ніхто ня ведае аб ніякіх пастановах. Дык ці ня крыецца тут нейкая трагічная памылка віл. карэспандэнта ІКЦ? Ці наагул, ува ўсіх закідах і адносінах да выселеных ня крыецца нейкая памылка?

Дня 7.I. адбылася рэвізія ў рэд. Я. Шутовіча. Забраны рукапісныя матар'ялы і карэспандэнцыя.

### І ТАМ ВЫСЯЛЕНЬНІ...

З Наваградчыны паведамляюць нас, што і там практыкуюцца высяленьні з г. зв. прыгранічнай паласы, што зрабіла палажэньне тамашняга жыхарства вельмі цяжкім. Нямала ўжо выселена беларусаў з іх родных сялібаў. У апошнім часе выселены з в. Тупалы Ал. Гурын, з в. Савашы Вера Багелянка. Трэба адзначыць, што Наваградзкі павет не даходзіць да граніцы.

Апроч высяленьняў практыкуюцца пераносіны вучыцялёў - беларусаў у этнаграфічную Польшч. Гэтак нядаўна перанесены з Наваградчыны вучыцялі: Бітус, Ал. Ворса і Міх. Чатырка. Два апошнія раней былі вучыцялямі ў зачыненай Беларускай гімназіі ў Наваградку.

### ЗАБАРОНЫ.

Як нас інфармуюць із Стаўпецкага павету, падчас сёлетніх Калядных сьвятаў за прыкладам папярэдніх гадоў сьведамае беларускае грамадзянства праектавала зладзіць у цэлым радзе вёсак беларускія прадстаўленьні. Аднак гэтыя культурныя імпрэзы не маглі адбыцца дзеля неатрыманьня на зладжаньне іх дазволу ад стаўпецкага старасства. І так забаронена між іншымі паставіць бел. спэктакль у вёсцы Задвор'е, у в. Засульле, у в. Стары Сьвержан і два разы у мястэчку Новы Сьвержан.

Характэрна, што дэлегацыі ад „Кулка Рольніч." м. Новага Сьвержана, якая прасіла аб дазвол на спэктакль самога п. старосту Ковальскага, апошні даў 100 зл., але на спэктакль не пазволіў! Цікава, што забароны былі без матывацыі. Заміж спэктакляў прапанавалася ў Старостве „zabawy taneczne".

Як гэтыя факты пагадзіць із „пашыраньнем" культуры на нашых землях, аб чым так шмат усюды гаворыцца і пішацца — сапраўды цяжка зразумець.

### З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ

**„Шлях Моладзі"** (30.XII.38) прысьвячае перадавы артыкул агляду літаратурнае творчасці Міхася Машары, з прычыны 10-ці гадоў ягонай працы на ніве бел. літаратуры. У 1928 годзе выйшаў першы зборнічак вершаў паэта „Малюнкі". Пачаў пісаць М. Машара, седзячы на Лукішках у сувязі з ліквідацыяй „Грамады". Агляду творчасьці М. Машары прысьвяцім і мы артыкул у найбліжэйшым нумары „Белар. Фронту".

**„Хр. Думка"** (3.I), спатыкаючы Новы Год, піша, што будзе выхадзіць надалей 3 разы ў месяц, бо перайсьці на тыднёвік з прычыны высылкі з Вільні галоўнага супрацоўніка і выдаўца кс. Станкевіча ня зможа. „Хр. Д." зварочвае ўвагу на самаўрадавыя выбары і царкоўнае жыцьцё. Паміж іншым піша, што нованазначаны ў Вільню на вікарнага епіскапа Матвей Семашка гаварыў першую сваю прамову да народу і духавенства па-польску, а перад гэтым па-польску прывітаў епіскапа пратаерэй Дзічкоўскі. Трэба тут адзначыць, што як прат. Дзічкоўскі, так і епіскап Семашка лічаць сябе палякамі. Падчас прамовы епіскапа Семашкі ў царкве пачуліся голасныя пратэсты, за каторыя былі сьпісаны пратаколы.

### З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ.

Выйшлі нядаўна такія беларускія кніжкі:

1) кс. А. Станкевіч — „Беларускі Хрысьціянскі Рух" (лацініцай), адбітка з „Хр. Думкі", апісвае дзейнасьць Бел. Хрысьціянскай Дэмакрацыі ад яе закладзін да апошніх часоў. Бачын 280, цана

---

ходзяцца далей. Апанаваньне фабрык вядзе да апанаваньня палітычнага жыцьця краю.

Фабрыкі маюць і нацыянальнае значэньне. Якая мова, якая нацыя возьме верх на фабрыцы, тая накідае і падпарадкавае сабе ўсе іншыя мовы і ўсе іншыя нацыянальнасьці, якія прыстасоўваюцца да большасьці. Дзеля гэтага некаторыя польскія дзейнікі (напр. „Słowo") хоча закладаць у нашым краі фабрыкі, каб польшчыць беларускае насельніцтва, бо кажа, беларускі мужык, седзячы на вёсцы, ня спольшчыцца... З гэтага бачым, якое вялікае аружжа прадстаўляюць фабрыкі, як цьвярдыні пануючай нацыянальнасьці. Дык беларусы павінныісьці да таго, каб апанаваць фабрыкі ў нашым краі.

### 4) ГАНДАЛЬ.

Гандаль у жыцьці народу мае значэньне ня толькі, як варштат працы для „грашовых" адзінак, але мае яшчэ значэньне і агульна - нацыянальнае. Ведаем з практыкі, як цяжка бывае на вёсцы з кожным грошам дзеля нястачы плыўкага, грашовага капіталу. Часам трудна здабыць пару залатовак на нейкую нават вельмі патрэбную справу. Вёска, ня маючы грашовага капіталу, ня мае апірышча ў шырэйшай дзейнасьці. Ня тое гандляр. Ён мае ня толькі патрэбны ў кожнай справе грош, але мае магчымасьць зносін з іншымі людзьмі. Пры гэтым гандляр сядзіць заўсёды ў „цэнтры" вясковым, мястэчковым або гарадзкім, можа зносіцца з іншымі цэнтрамі, адбывае ў сваіх справах падарожжы, адным словам мае сувязь з сьветам. А такі элемэнт вельмі карысны — і карысны ня толькі для гандлю, але для шырэйшага нацыянальнага, а ў тым ліку і сялянскага жыцьця. Гандляр, які чуе сувязь з нацыяй, можа ўлажыць свой грош такжа ў справы нацыянальныя. Такім парадкам гандаль, так як і рамясло, адыгрывае ў кожнай краіне вялікую ролю. На няшчасьце гандаль у Беларусі ў чужых, небеларускіх руках.

Але як залажыць гандлёвы варштат пры адсутнасьці ў нас грашовага капіталу? — І на гэта ёсьць рада, а гэтай радай ёсьць закладзіны свайго **банку.** Ёсьць людзі, якія маюць грошы, але гэтыя грошы ў іх ляжаць без карысьці. Тымчасам тыя грошы, калі будуць паложаны ў банк, дадуць ня толькі ім карысьць (працэнты), але дадуць яшчэ другім магчымасьць залажыць варштат працы. Паложаныя ў банк грошы возьмуць тыя, каторыя хочуць залажыць для сябе які варштат працы, у гэтым прыпадку гандлёвы. Узяўшы грошы яны плацяць у банк працэнты, але разам з гэтым пускаюць грошы ў рух, твораць для сябе варштат працы, зарабляюць на ім, потым зварочваюць грошы назад у банк, іх бярэ нехта другі — і так без канца. Ясна, што найлепш гэту справу можа павясьці свой **нацыянальны** банк. Калі-ж у краі няма выстарчаючай колькасьці грашовага капіталу, тады пазычаюцца грошы з заграніцы (заграічная пазыка) і робіцца з іх належны ўжытак.

Гандаль у сяньняшнія часы, калі адсоўваецца або выкідаецца з краю жыдоўскі элемэнт, павінен узяць у свае рукі не хто іншы, але беларускі элемэнт.

### 5) ВОЛЬНЫЯ ПРАФЭСІІ.

Да вольных прафэсіяў належаць: вучыцялі, духавенства, урадаўцы (прыватныя), адвакаты, дахтары, інжынеры і іншыя. Вольныя прафэсіі завуцца яшчэ інтэлігенцкімі прафэсіямі. У нармальным парадку жыцьця гэтыя прафэсіі твораць **мозг народу.** Яны за ўвесь народны арганізм думаюць, укладаюць пляны дзейнасьці, паказваюць новыя шляхі. Інтэлігенцыя ёсьць павадыром свайго народу. Апроч гэтага яна рэпрэзэнтуе народ навонкі, перад іншымі народамі. Без інтэлігенцыі народ ня мае ані павадырства, ані рэпрэзэнтацыі. Дык у кожным народзе інтэлігенцыя адыгрывае вялікую ролю. Беларускі народ у цяперашнім палажэньні, пры сучасных неспрыяючых варунках сваей інтэлігенцыі мае нямнога. Мы ня маем сваіх вучыцялёў, сваей духоўнай гіерархіі, ня маем сваіх урадаўцаў, мала сваіх адвакатаў і дахтароў — і гэты недахват адчуваецца ўсюды. Каб павялічыць сваю інтэлігенцыю, трэба вучыць здальнейшых хлапцоў і дзяўчат, выбіраючы прыгэтым характары моцныя, якія потым не заломяцца пад рознымі жыцьцёвымі нягодамі.

* * *

Гэтакім парадкам мы разглядзелі ўсе галоўныя варштаты працы: зямлю, рамясло, фабрычны промысел, гандаль і вольныя прафэсіі. Прычынай цесноты і галіты нашай вёскі ёсьць той факт, што вёска, і народ наш наагул, ня мае гэтых варштатаў працы. Значыць, трэба іх здабыць. А як здабыць, няхай передумае наш кожны чытач і пашукае спосабаў у супольнай з намі і з сваімі суседзямі на гэту тэму дыскусіі.

Ад сябе мусім адзначыць, што некаторыя варштаты працы. у першую чаргу гандаль, мы ўважаем за часовыя і пераходныя па шляху **да каапэратывізму.** На наш пагляд каапэратывізм ёсьць найлепшай грамадзкай тэорыяй для беларускага народу і бел. народ павінен да яго консэквэнтна і сыстэматычна ісьці.

**В. Г.**

# На міжнародным ґрунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Важнейшыя падзеі ў першай палавіне студня былі такія: 1) Італьянска-француская спрэчка, якая відаць, была добра абдумана ў штабе Муссаліняга і мае нейкія далейшыя і глыбейшыя мэты; 2) візыта англ. міністраў Чэмбэрлена і Галіфакса ў Рыме, дзе вырашаюцца справы Міжземнага мора, Гішпаніі і між іншым мае быць вырашана італьянска-француская спрэчка; 3) неспадзяваная візыта мін. Бэка ў Гітлера, якая нарабіла столькі шуму і дагадак у палітычным сьвеце, аб якой мы пішам на іншым месцы; 4) спроба ліквідацыі японска-кітайскай вайны, прыгэтым Японія выставіла нават лагодныя варункі міру, якія аднак былі адкінены Чанг-Кай-Шэкам (з гэтага робяць выснаў. што Японія мае цяпер іншыя пляны, напрыклад, паход разам з Нямеччынай на Саветы); 5) прыгатаўленьні Нямеччыны да паходу на ўсход проціў Саветаў; 6) Крывавыя сутычкі паміж Чэхаславаччынай і Вугрыяй, прычым у гэтых сутычках трудна дасьледзіць, дзе крыецца галоўны іх мотар (бо-ж як Чэхаславаччына так і Вугрыя належаць да нямецкай палітычнай сыстэмы); 7) У Гішпаніі паўстанцы пруць да апанаваньня Каталёніі, відаць, каб адрэзаць цалком рэспубліканцаў ад Францыі (гэта маюць зрабіць да вясны); 8) На вясну праракуюць сусьветную вайну, якая пачнецца або ад паходу Нямеччыны на Ўсход, або ад нападу Італіі на Туніс...

Пачнём наш агляд ад гэтага апошняга пункту, г. зн. ад ваенных вестак.

## ВАЙНА НА ВЯСНУ?

У амэрыканскіх палітычных кругох пануе пракананьне, што сусьветная вайна пачнецца на вясну сёлета. Гэтак цьвярдзяць амбасадары Злуч. Штатаў у Парыжы і Лёндыне і заклікаюць амэрык. грамадзянства, каб было гатовае на ўсё. Прыгэтым кажуць, што вайна пачнецца або ад паходу Нямеччыны на Ўсход, або ад нападу Італіі на францускі Туніс. Гэта залежыць ад таго, ці Нямеччына сёлета пойдзе здабываць калёніі, ці пойдзе дзяліць Расею на паасобныя нацыянальныя дзяржавы. Сапраўдных плянаў Нямеччыны ніхто ня ведае. Многа фактаў гаворыць за тым, што пойдзе на ўсход. Паміж іншым паказваюць на тое, што Нямеччына зьвярнула вялікую ўвагу на лёгкія зматарызованыя дывізіі, а не на цяжкія і прыгэтым купляе вялікую колькасьць коней, што сьведчыла-б аб тым, што мае на мэце падгатову да паходу ў вялікую і абшырную краіну, у катораи лёгкія панцырныя часьці і коні адыгралі-б вялікую ролю.

Яшчэ адзін факт, аб каторым піша „Русскій Голос“ (11.I.) і на каторы палітычныя кругі зьвярнулі вялікую ўвагу, гэта **рэестрацыя ўсіх беларусаў і ўкраінцаў, якія жывуць у Нямеччыне.** У Парыж з Бэрліна прыйшла вестка такога зьместу: Нямецкі ўрад выдаў распараджэньне зрабіць рэестрацыю ўсіх украінцаў і беларусаў, якія пражываюць у Нямеччыне. Украінцы і беларусы павінны адказаць на такія пытаньні: 1) да якой арганізацыі яны належаць, 2) у якіх вайсковых часьцях яны служылі і ў якім чыне, 3) ці маюць у Савецкай Расеі канфіскаваную нярухомую маемасьць?

Аб важнасьці гэтай рэестрацыі гаварыць ня трэба: яна сьведчыць аб заінтарасаваньні Нямеччыны ўкраінцамі і беларусамі. Да якога тэрміну мае быць зроблена гэта рэестрацыя — не паказана.

Гэта маюць быць факты, якія пацьвярджалі-б нямецкія імкненьні на ўсход. Але ёсьць факты, якія прамаўляюць за тым, што Нямеччына скіруецца на захад: 1) задзёрыстасьць Італіі, якая дамагаецца ад Францыі Тунісу, Джыбуті а нават Корсыкі, 2) паход паўстанцаў на Барцэлёну, каб ня гледзячы на страты і на зімнюю пару дайсьці да вясны да францускай граніцы на ўсім яе працягу, 3) непадгатаванасьць да вайны Англіі, якая будзе гатова да яе за год або найдалей за паўтара года. Калі-б Нямеччына мела ісьці на Захад, дык вайну распачала-б Італія, а тады ўжо ў яе ўмяшалася-б Нямеччына.

Вялікую сэнсацыю ў палітычных кругох зрабіла вестка, пададзеная англійскай прэсай аб існаваньні тайнага **вайсковага саюзу** паміж Нямеч. і Італіяй. На падставе гэтага саюзу абедзьве дзяржавы забавязаны падаваць сабе ўзаемную помач на выпадак напасьці і падтрымліваць сябе ў кожнай магчымасьці пашырэньня тэрыторыі, або ўплываў. З Бэрліна на гэту вестку прыйшло запярэчаньне, ў якім гаворыцца, што ўсё гэта выдумка.

Гэтак прадстаўляюцца ваенныя весьці. Дык калі і дзе пачнецца вайна — згадаць трудна. Кажуць, што на вясну. Магчыма. Кажуць, што ўва Ўсх. Эўропе або ў Тунісе. І гэта магчыма. Урэшце да вясны недалёка, а тады пабачым.

## ПАДАРОЖЫ ЧЭМБЭРЛЕНА.

Англійскі прэм'ер Чэмбэрлен з сваімі міністрамі загр. спраў Галіфаксам падарожнічаюць. Дня 11. І. прыбылі ў Рым, дзе з Муссолінім і мін. Чіано вялі дыпляматычныя гутаркі. аб якіх у прэсе пішацца мала. Дагадваюцца толькі, што тэмай гутарак ёсьць справы Міжземнага мора, Гішпаніі і наагул усе справы, якія датычаць англійска-італьянскіх адносін. Быццам былі парушаны такжа справы француска-італьянскіх адносін, але спосабам неафіцыяльным, бо франц. ўрад, баючыся ўступчывасьці Чэмбэрлена засьцярогся, што Чэмбэрлен у ніякім прыпадку ня можа быць пасярэднікам у француска-італьянскім споры. Дык рэзультаты падарожы Чэмбэрлена мусіць будуць нязначныя.

Але цяпер паўстаўе пытаньне: дык чагож Чэмбэрлен так заўзята падарожнічае? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба ўзяць пад увагу факт, што для Англіі пакуль што іншага выхаду няма, як толькі дыпляматычныя падарожы. Справа ў тым, што Англія да вайны яшчэ непрыгатавана, падгатова яе будзе трываць яшчэ год або паўтара, дык трэба спадзявацца, што праз гэты час Чэмбэрлен будзе падарожнічаць... Ідзе яму аб тое, каб за ўсякую цану не дапусьціць да вайны ў гэтым 1939 годзе, а адлажыць яе на потым. Кажуць, што ў 1940 годзе, ужо не гаворачы аб 1941 г. калі вялізарныя англ. уваружэньні будуць даведзены да канца, падарожы Чэмбэрлена спыняцца...

## ГІШПАНІЯ і КІТАЙ.

**У Гішпаніі,** як мы ўжо ўспаміналі, паўстанцы пруць цэлай сілай на Барцэлёну, хочуць дайсьці да францускай граніцы на ўсім яе працягу. Разам з паўстанцамі ваююць італьянскія „ахвотнікі“. Дайшоўшы да францускай граніцы на каталёнскім фронце, паўстанцы заграззяць Францыі з поўдня і зробяць яе болей уступчывай перад Італіяй. Гэтакая здаецца, ёсьць мэта цяперашняга наступленьня. Апроч гэтага нямецкая прэса адзначае, што пасьля перамогі паўстанцаў ключ да Міжземнага мора апынецца ў руках Гішпаніі, а калі ў руках Гішпаніі, дык гэтым самым Італіі і Нямеччыны. У Гішпаніі Нямеччына мае наладзіць базы для сваіх падводных лодак, якія пачала будаваць у вялікай колькасьці. Падводныя лодкі будуць перарэзваць гандлёвыя і камунікацыйныя шляхі Англіі... Дзеля тэтага пануе пракананьне, што перад аканчальнай перамогай паўстанцаў вось Бэрлін—Рым не захоча змагацца з восяй Лёндын — Парыж.

**У Кітаі** падзеі „замерзлі“. Японія думала, што пасьля апанаваньня ўсіх кітайскіх сталіц, Чанг-Кай-Шэк пойдзе на ўступкі і вайна скончыцца. Дзеля гэтага пасьля ўзяцьця Кантону і Ганкоў японскі ўрад высунуў такія варункі міру: 1) Кітай прызнае Манджурскую дзяржаву, 2) далучаецца да проціўкамуністычнага пакту, 3) уступае ў гаспадарчы блёк Японія-Манджурыя, 4) дапускае прабываньне японскіх гарнізонаў у галоўных цэнтрах свайго краю, 5) згаджаецца на арганізацыю нутраной Манголіі, як антыкамуністычнай базы. На гэтыя варункі Чанг-Кай-Шэк не пайшоў і Японія ізноў стала перад новай і даўгою вайною. Дзеля гэтага японскі ўрад прэм'ера Коноэ падаўся ў дымісію, а яго заступіў новы ўрад з прэм'ерам Гіронума на чале. Кажуць, што Японія запрапанавала Кітаю мір, каб мець вольныя рукі ў надыходзячым на вясну змаганьні з Саветамі.

## ЧЭСКА-ВУГОРСКІЯ СУТЫЧКІ.

У апошнім часе парушылі палітычны сьвет змаганьні на чэска-вугорскай граніцы паміж чэхамі і карпацкімі ўкраінцамі з аднаго боку і входзячы ў склад — з другога. Прычыны гэтых сутычак няясны. Польская прэса падае толькі вугорскія паведамленьні з Будапэшту, мінаючы чэскія і карпата-украінскія, а тымчасам, хочучы дайсьці праўды, трэба было-б чытаць адны і другія. Паводле вугорскіх паведамленьняў наступаючай стараною былі чэхі і ўкраінскія січовыя стральцы з Карпацкай Украіны, прыгэтым былі ўведзены ў бой браневікі, танкі і гарматы. Былі забітыя і раненыя як па аднэй старане, так і па другой. Бітва адбывалася каля г. Мукачэва, ўступленага Вугрыі. Прычыны бітвы няясны тымболей, што чэскія асаднікі і каляністы, якія былі асеўшы на вугорскай этнаграфічнай тэрыторыі, самі ўцяклі або іх выгналі.

На наш пагляд, калі гэтыя інцыдэнты маюць лёкальнае значэньне, над імі можна перайсьці да парадку дня, але калі за імі нехта стаіць (Нямеччына) і пры помачы чэхаў і карпата-ўкраінцаў хоча зрабіць нейкі націск на Вугрыю, дык гэтыя падзеі могуць мець глыбейшае і далёка-ідучае значэньне. Гэта выглядала-б на нейкую рэжысэрыю перад выступленьнем на сцэну. Трэба не забывацца, што неспакойна і на далучаным да Польшчы „Заользю“, там чэскія баёўкі робяць напады, кідаюць бомбы, раняць і забіваюць польскіх пагранічнікаў.

Паводле апошніх вестак **Вугрыя далучылася да антыкамуністычнага пакту.**

## ЯШЧЭ АБ КАРТАХ.

У апошнім нумары „Б. Фр.“ з 1938 году мы падавалі ўсьлед за польскай прэсай весткі аб розных прапагандовых картах, якія цяпер пашыраюцца ў Зах. Эўропе і Амэрыцы. На гэтых картах азначаны граніцы Ўкраіны і Беларусі. Эндэцкі «Głos Narodowy» (11.I.) прыносіць вестку, што ў Амэрыцы (у Злуч. Штатах) пасярод немцаў зьявілася брашура пад загалоўкам „Праўда аб Польшчы“. На вокладцы брашуры знаходзіцца карта Польшчы, на каторай Вялікая Польшч (Wielkopolska) і Памор'е, а таксама Шлёнск належаць да Нямеччыны, а ўсходнія абшары Рэчыпаспалітай аж па Седльцы, Дэмблін і Ломжу прызнаны ўкраінцам, а Віленшчына ахвяравана беларусам...

Падаём гэту вестку на адказнасьць «Głosu Narodowego».

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

2 зал. Да крытычнага агляду гэтай кніжкі мы некалі вернемся.

2) Др. Станіслаў і Ядвіга Грынкевічы — „Рады хворым і здаровым“ (лацініцай), адбітка з „Ш. Мол.“, бач. 80, цана 50 гр.

3) Садоўніцкая чытанка“ (кірыліцай) — гаспадарскі падручнік аб садоўніцтве, 84 бачын, цана 1 зал.

4) Чатыры беларускія календары, з гэтых адзін адрыўны, а 3 кніжныя (два кірыліцай, а адзін лацініцай). З іх выдзяляецца „Беларускі Народна-Гаспадарскі календар“, у каторым зьмешчаны нарыс „Гісторыі беларускага языка“ дра Я. Станкевіча. Цана 45 гр. з перасылкаю.

Апроч гэтых кніг выдана яшчэ беларускім пісьменьнікам і паэтам Хведарам Ільляшэвічам салідная кніга «Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie». Гэта ёсьць магістэрская праца аўтара. У кнізе паказаны ўсе беларускія друкі, якія друкаваліся ў друкарні Мамонічаў на працягу яе існаваньня (1575—1623). Салідны навуковы падыход аўтара да справы варожыць яму добрую будучыню на ніве беларускай навукі. Трэба толькі пажадаць, каб аўтар ня кідаў працы ў гэтым кірунку.

## З САВЕЦКАЕ БЕЛАРУСІ.

### Адкрыты новыя багацьці мінэральныя ў Беларусі.

Газэты паказываюць, што Інстытут геолёгіі і гідрэолёгіі Акадэміі Навук БССР адкрыў на поўнач ад Віцебску багатыя залежы магнэтна-жалезнай руды. Залежы цягнуцца шырокай 55-ці кілёмэтравай паласою. У тым-жа раёне адкрыты багатыя залежы вівяніту — мінэралу, з якога вырабляюць дарагія фосфарныя ўгнаеньні.

## БЕЛАРУСЫ НА ЧУЖЫНЕ.

У **Літве** працуюць тры беларускія арганізацыі: 1) „Беларускі Цэнтр у Літве“ — кіраўнік інж. Кл. Дуж-Душэўскі; 2) „Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва ў Літве“ — кіраўнік С. Якавюк і 3) „Беларускі Нацыянальны Камітэт у Літве“ — кіраўнік адв. Усевалад Боеў. Дзьве апошнія арганізацыі паміж сабою супрацоўнічаюць. „Беларускае Культ.-Асьветнае Т-ва“ зарганізавала Бел. Народны Тэатр, які летам і восеньню мін. году паставіў цэлы рад бел. спэктакляў у Коўні і на правінцыі. Ставяцца п'есы беларускія, расейскія і літоўскія, апроч гэтага выступае балет, сьпевы солё і дуэты. Усюды выступленьні „Бел. Нар. Тэатру“, як паведамляе „Литовскій Вѣстник“, прыймаюцца публікай з энтузіязмам, некаторыя нумары трэба было паўтараць па некалькі разоў. Рэжысэрам ёсьць гр. Ямонт.

„Беларускі Цэнтр у Літве“ быў пастанавіўшы выдаць беларускі календар, ў якім мелі быць пададзены ўсе бел. арганізацыі ў краі і заграніцай. Дзеля апрацаваньня календара была створана Рэд. Калегія ў складзе: інж. Дуж-Душэўскі, А. Зэйгліш і А. Матач. Ці календар ужо выйшаў — ня маем вестак.

Redaktor i wydawca: mgr. W. GODLEWSKI. Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.